



# Да новага навучальнага года




За прйшоўшыя сем месяцаў сёлетняга года ўнітарным прадпрыемствам краіны - Менскім паліграфічным камбінатам імя Я. Коласа выпушчана больш за два мільёны асобнікаў кніг і брашур. Значная частка друкаванай прадукцыі прызначана для юнага пакалення беларусаў - 45 найменняў падручнікаў. Яшчэ 11 назваў кніг і брашур агульным накладам 425 тысяч асобнікаў паліграфісты павінны былі выпусціць у жніўні.

**На здымку:** падручнік гісторыі Беларусі выпуску 2000 года.

**Фота Аляксея Мацюшкова, БелТА.**

***... а Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны выпусціла кніжныя закладкі, прысвечаныя 10- годдзю Таварыства. На закладках пададзена сімволіка ТБМ і ўсе каардынаты Таварыства. Знайсці закладкі можна ў Менскай сядзібе ТБМ і мясцовых структурах ТБМ.***







# ЯШЧЭ АДЗІН ПОСПЕХ

Стварэнне беларускага самадзейнага тэатра задумвалася як сродак пашырэння і замацавання беларускай мовы ў грамадстве. Ініцыятыва сыходзіла ад Магілёўскага гарадскога Таварыства беларускай мовы. На паседжанні Рады прапанавалі В. І. Ермаловічу працаваць у камісіі па распаўсюджванні беларускай культуры. Тады ж вядомы рэжысёр, які кіраваў Бялыніцкім народным тэатрам, і згадзіўся для рэалізацыі рашэння стварыць тэатр. Сцэну прадставіў Магілёўскі гарадскі цэнтр культуры і вольнага часу. Акторамі сталі студэнты філфака мясцовага універсітэта. Прыкладна за паўгода быў падрыхтаваны спектакль па інсцэніраваным апавяданні Васіля Быкава "На Чорных лядах". Трупа з часам вырастала, прыходзіла ў асноўным моладзь: студэнты іншых вузаў, рабочыя, служачыя, а таксама людзі больш сталага ўзросту. За 8 гадоў працы падрыхтавалі 19 спектакляў, "Незаконная драма", "Пан міністр" Ф.Аляхновіча, "Таленты з глыбінь" Я. Яноўскага, "Хто смяецца апошнім" К.Крапівы, "Збянтэжаны Саўка", "П. С. Х." Л. Родзевіча, "Салдат і яго жонка", "Савецкі чалавек", "Жартаўлівы Пісарэвіч" М. Гарэцкага, "Калізей" М. Матукоўскага і інш.

У 1997 годзе тэатру нададзена званне "народнага".

У 1997 – 1999 гадах Народны самадзейны тэатр прымаў удзел у фестывалях "Зямля пад белымі крыламі", "Беларусь – мая песня", дзе тройчы станавіўся лаўрэатам.

У студзені 2000 года тэатр прыняў удзел у рэспубліканскім фестывалі аматарскіх тэатраў у Слуцку "Тэатральныя скрыжаванні", дзе за спектакль па п'есе Ул. Рудакова "Камедыя пра нешчаслівага селяніна Дзёмку, яго жонку Маланку, жыда Давіда і чорта, які страціў сэнс існавання" атрымаў дыплом 1-й ступені. Тады ж трупа была запрошана на фестываль адпаведнага мастацтва ў Літву.

Фестываль адбыўся ў ліпені. Удзел прымалі краіны Балтыі. Свае працы гледачам прадставілі аматарскія тэатры Швецыі, Нарвегіі, Фінляндыі, Даніі, Ісландыі, Літвы, Латвіі, Эстоніі, Расіі, Германіі. Кожны спектакль быў адмысловым, выклікаў цікавасць у гледачоў. Як адзначыў В. Ермаловіч, рэжысёры імкнуліся адысці ад традыцыйнасці, нават у тых выпадках, калі на сцэне інтэрпратавалася класіка. Напрыклад, свой сцэнічны варыянт п'есы А.П.Чэхава "Вішнёвы сад", прапанаваў Эстонскі тэатр. (Зазначым, што ўсе спектаклі праходзілі на мове краіны, якую яны прадстаўлялі). Спектакль складаўся з асобных мініяцюр, часам у іх страчвалася ўнутраная сувязь. Аднак спецыялісты дабразычліва ставіліся да эксперыментаў, адзначалі цікавыя рэжысёрскія знаходкі. Блізкія да мюзіклу былі многія спектаклі, а іншыя мелі і яўныя рысы эстраднага мастацтва.

Так атрымалася, а можа і спецыяльна зрабілі арганізатары, але магілёўцам прыйшлося сваё маёстэрства паказваць заключнымі. Спектакль быў прыняты на "біс". У час абмеркавання адзначалася, што гэта адзіны суцэльны спектакль, увесь ігравы. Як прыклад адзначалася і тое, што для спектакля выбраны актуальны твор, хоць і напісаны на фальклёрны сюжэт. Сапраўды, У. Рудаў выкарыстаў сюжэт вядомай "Камедыі" К. Марашэўскага, аднак надаў ёй іншую інтэрпрэтацыю. У Марашэўскага Дзёмка церпіць паражэнне, Чорт валачэ яго ў пекла. У новым жа творы Дзёмка выходзіць пераможцам. Ролі выконвалі: Дзёмка – Міхась Бацэвіч, жонка – Раіса Галушка, Давід – Валянцін Ермаловіч, Чорт – Алесь Андрэйчыкаў, Анёл – Марына Тураўская, Ева – Аксана Васкоўская, Адам – Мікалай Паддубскі.

Прызавыя месцы на фестывалі не вызначаліся, але ўсе аднадушна прызналі спектакль магілёўскай трупы на гэтым фестывалі лепшым.

Зараз тэатр рыхтуецца да чарговай тэатральнай восені.

***Яраслаў Клімуць.***



# Цагліна з Параф'янава на стале ў кангрэсмена ЗША

Сапраўды так, у дзядзі Сэма (Сямёна) Гейдэнсона – члена Палаты прадстаўнікоў Кангрэсу ЗША на службовым стале ляжыць цагліна з в. Параф'янава Докшыцкага раёна Віцебскай вобл. Рэспублікі Беларусь.

Як яна тут апынулася і з якімі падзеямі звязана? Гэта вельмі цікавая гісторыя, хаця і трагічная.

Хаця ўсё цячэ і змяняецца, але ў памяці людзей застаюцца падзеі вартыя ўспаміну, нягледзячы на тое, што прайшло ўжо болей за паўстагоддзе з таго часу, калі ў цяжкія гады нямецкай акупацыі ў Параф'янаве, як і ў другіх мейсцах, разыгрываліся трагічныя падзеі, звязаныя са знішчэннем габрэйскага насельніцтва.

Мясцовыя жыхары здалёку са страхамназіралі жудасную расправу эсэсаўцаў над безабароннымі людзьмі габрэйскага паходжання, якую праводзіла докшыцкая паліцыя на чале з Камулькам (заўвага: Камулька пад час нямецкай акупацыі быў у Докшыцах начальнікам паліцыі; паводле расказаў маёй маці – гэта быў кат, звер, але ў далейшым быў знойдзены ў Польшчы, прывезены ў Менск, і ў 1956 г. асуджаны да расстрэлу. У Польшчы яго апазнаў жыхар з в. Падомхі, што ля Докшыц – Стадольнік І.).

Непасрэдна растрэл вялі 2 эсэсаўцы, якія прыбылі з Глыбокага (Беразвечча), паліцыя рабіла ачапленне і канваявала.

Перад расстрэлам людзей, адной маладой габрэйцы далі апошняе слова, якая зрабіла палымянную прамову і заклікала годна прыняць пакутніцкую смерць і, што прыдзе час, калі забойцы будуць пакараны Богам і людзьмі... (з успамінаў Рэгіны Тумаш 1928г. нар., якая цяпер жыве ў Польшчы).

І ў гэты момант двое мужчын кінуліся бегчы ў бок лесу. Пачалася страляніна. Аднаму з іх удалося ўцячы (прозвішча невядома). Азвярэлыя нелюдзі пачалі растрэл габрэяў: іх групамі падганялі да краю ямы, а эсэсаўцы з аўтамата палівалі іх свінцом. Людзі валіліся ў яму, потым другую групу і г.д. Затым зверху прысыпалі зямлёй. Трое сутак зямля дыхала, як грудзі. Крывавая пляма на зямлі заставалася на доўгі час.

Але не ўсіх габрэяў фашысты знішчылі ў Параф'янаве. Многія засталіся ў жывых з дапамогай мясцовых жыхароў. Дарэчы, тут з даўніх часоў жылі габрэі ў дабрасуседскіх адносінах і ўсе добра ведалі адзін аднаго, бо кантактавалі.

Напрыклад, мае бацькі (Пятрусь і Фэльця) сябравалі з многімі габрэямі, ведалі ўсіх, размаўлялі па-просту і кантактавалі. Як вядома, габрэі займаліся гандлем і промысламі. Наш край быў багаты на лес, лён і жыта. Лес (драўніну) адпраўлялі нават аж у Англію.

Калі з прыходам фашыстаў габрэяў у Параф'янаве загналі ў мясцовае гета то наша сям'я заўсёды дапамагала прадуктамі. Мая сястра Ромця (1931 г. нар.) – дзяўчынкай нелегальна хадзіла ў гета, каб аддаць прадукты, а ў час небяспекі яе хавалі пад ложкам. Зразумела, гэта ўсё магло кончыцца трагічна, але бескарысная дапамога ў цяжкую часіну габрэям была на волі Бога і сумленні чалавека.

І тут я хачу засяродзіць увагу на сям'і Станкевічаў з в. Целяшы, што недалёка ад Параф'янава, якія ў сябе дома хавалі габрэйскую сям'ю – двух братоў Гейдэнсонаў і выратавалі ад смерці.

Летась, г. зн. у 1999 годзе родныя пенаты бацькі і дзядзькі наведаў сын Сэм Гейденсон, які ў цяперашні час з'яўляецца членам Палаты прадстаўнікоў Кангрэсу ЗША.

Яшчэ ў канцы 80-х гадоў Сэм Гейдэнсон хацеў прыехаць у Параф'янава, каб пакланіцца бацькоўскаму дому, падзякаваць тым, хто ратаваў яго бацьку і дзядзьку ад фашыстаў. Але тады савецкая ўлада не дазволіла зрабіць гэта, спасылаючыся, што тут дрэнныя дарогі і даехаць цяжка. Тады яшчэ стаяў і бацькоўскі дом, а цяпер, за тры месяцы да прыезду, дома не стала, ён згарэў. На месцы бацькоўскага дома ў Параф'янаве Сэм Гейдэнсон убачыў папялішча, пакланіўся ўсяму, а на ўспамін узяў ад роднага дома цагліну і адвёз у ЗША. Гэтая цагліна ляжыць цяпер на стале яго службовага кабінета, напамінаючы аб далёкім Параф'янаве, дзе добрыя людзі зберaглі ад фашыстаў яго бацьку.

Тут Сэм сустрэўся з пані Станкевічыхай, ужо старэнькай, якая калісь выратавала жыццё ягонаму бацьку. З'ездзіў і ў Маладэчна, дзе сустрэўся з дачкой пані Станкевічыхі. Сустрэчы былі хвалюючымі, Сэм Гейдэнсон шчыра аддзякаваў сям'ю Станкевічаў.

Дзядзя Сэм паважае не толькі гэтую сям'ю, але і ўвесь беларускі народ. Ён імкнецца, каб Беларусь была незалежнай і дэмакратычнай, вольнай. Там, у ЗША, ён сустракаецца з беларускай апазіцыяй, цікавіцца, што робіцца на радзіме яго бацькі і робіць, як кангрэсмен, адпаведныя высновы. Нядаўна Сэм склаў праект рэзалюцыі ад свайго камітэту для разгляду ў Палаце прадстаўнікоў Кангрэсу ЗША (па сітуацыі ў Беларусі). Спадзяёмся, што і ў далейшым ён будзе дапамагаць дэмакратычнай Беларусі.

Няхай тая цагліна з Параф'янава, з дома яго бацькі, будзе сімвалам дружбы і ўзаемапаразумення не толькі між беларусамі і габрэямі, але і між ЗША ды дэмакратычнай, незалежнай Беларуссю.

***Юры Гіль.***



№ 34 (471) 30 ЖНІЎНЯ 2000 г. Наша Слова

# КАЛІ ДВОЙЧЫ ДВА – ПЯЦЬ,

## або чаму беларускія энцыклапедысты не завершаць XX стагоддзе зводам усіх ведаў пра Беларусь?

*(Заканчэнне. Пачатак на ст. 5.)*

**Ад карыстальнікаў БелЭн асабліва хаваюцца лічбы і факты, якія сведчаць аб выцясненні з ужытку мовы карэннага насельніцтва краіны падчас прэзідэнцкага праўлення. Возьмем друкаваную прадукцыю, дзе дужа адчуваецца прыярытэт рускай мовы: гэта б'е ў вочы ў кожнай кнігарні і кіёску. А энцыклапедысты не жадаюць дзяліцца з намі гэткім "сакрэтам": у артыкуле: "Выдавецкая справа" (т.4) падаецца толькі агульная колькасць назваў і наклад выдадзеных у розныя гады кніг і брашур, а таксама лік зарэгістраваных на 1.01.1997 года газет і часопісаў. Колькі ж сярод іх беларускамоўных выданняў – трэба здагадвацца няйнакш, як самому чытачу. Знаць не з рукі стваральнікам даведніка прыводзіць лічбы, з якіх вынікае, да прыкладу, што за тры гады – з 1994-га да 1996-га (том выйшаў з друку ў 1997 годзе) колькасць найменняў беларускіх кніг, выпушчаных усімі дзяржаўнымі выдавецтвамі, зменшылася ў параўнанні з 1993 годам амаль у два разы. ("Літаратура і мастацтва", 29.08.97г.).**

**Прамаўчаў і аўтар артыкула "Вышэйшыя навучальныя установы" (т.4), што беларусы не могуць атрымаць вышэйшую адукацыю на роднай мове. На такім фоне ці не здзекліва гучыць запаўненне: "Усе жыхары Беларусі забяспечваюцца роўнымі правамі і магчымасцямі для атрымання агульнай і прафесіянальнай адукацыі" (цытата з артыкула "Адукацыя", т.1). Гэтыя словы не стасуюцца таксама з негатыўнымі наступствамі моўнага рэферэндуму – 95 для нацыянальнай агульнаадукацыйнай школы. Каб наўмысля схаваць іх, сказіцьісціну, у 3-м томе (раздзел "Асвета" артыкула "Беларусь") публікуецца састарэлыя – не па тэхнічных прычынах! – лічбы, якія тычацца 1994/95 навучальнага года. Напрыканцы ж 1996 года, калі кніга была падпісана да друку, шмат па якіх пазіцыях, уключаючы школьнае навучанне, здабыткі нядаўняй кароткачасовай беларусізацыі былі ўжо зведзены ледзь не да нуля.**

**Калі боязна кінуць каменьчык у агарод...**

Мне могуць запярэчыць: маўляў, праўда-матка пра гаротнасць нашай мовы будзе сказана ў адмысловым артыкуле "Русіфікацыя", які павінен з'явіцца ў адным з наступных тамоў, бо гэты тэрмін вылзелены курсівам на 451-й старонцы (сярэдні слупок) 2-га тома. Так-то яно так, спасылка на слова, што фактычна стала апальным, дадзена (яно было ўключана ў слоўнік, які складаўся падчас падрыхтоўчай работы над выданнем). Я, аднак, заўважыў, што 5-ы том выйшаў без актуальнага артыкула "Голад", хоць слова гэтае ў 1-м томе (стар.427, левы слупок) надрукаванае курсівам. Міжвольна прыгадалася: адзін раз схлусіўшы, хто табе паверыць? Улічваючы гэткі непрыемны прэцэдэнт (мажліва, не адзіны), а таксама негатыўнае стаўленне цяперашняга кіраўніцтва выдавецтва да ўжывання азначэння "русіфікацыя", я неяк патэлефанаваў туды ў надзеі прасвятліць сітуацыю. На другім канцы провада не выказалі ўпэўненасць, што тэрмін, які мяне цікавіць, не будзе выкраслены са слоўніка і спасылка на яго, такім чынам, акажацца не апраўданай. Карацей кажучы, падман чытачоў не выключаецца. Асабіста мне думаецца, што калі выдаўцы ўсё ж апублікуюць невялікі артыкул "Русіфікацыя" (адносна "Паланізацыі" праблем, канешне, няма), дык наўрад ці адважацца яны змясціць у ім фактычны матэрыял, прынамсі, пра сённяшняе цынічнае знішчэнне матчынай мовы, даць праўдзівае тлумачэнне нашаму аняменню.

Быў бы рады памыліцца, але калі знаёмішся з артыкуламі, прысвечанымі іншым тэрмінам, якія маюць дачыненне да гэтай размовы, скажам, дыскрымінацыі (т.6), дык толькі ўмацоўваешся ў сваёй думцы. Насаджэнне рускай мовы, як вядома, ніколі не абыходзілася без зневажальнага стаўлення да беларускай і ўвогуле да беларушчыны. Аднак такой непрыхаванай дыскрымінацыйнай палітыкі ў адносінах да ўсяго беларускага, што праводзіцца ў нашы дні дзяржавай пры падтрымцы ўсіх антынацыянальных сіл, не было нават у 30-я гады падчас так званай контрбеларусізацыі, якая трывала захавалася ў маёй памяці. Залішне казаць, што ў памянёным артыкуле пра гэта няма ні слова ні паўслова. Больш таго, Беларусь там зусім не згадваецца, бо, паводле хлуслівай афіцыйнай прапаганды, у нас дыскрымінацыя не практыкуецца ні ў адной галіне грамадскага жыцця, у тым ліку ў адукацыйнай сферы па моўнай прыкмеце.

Іншы раз можна зразумець – але ні ў якім разе не апраўдаць – нашых энцыклапедыстаў, калі ім боязна кінуць каменьчык у агарод цяперашняга высокага чынавенства. Але вось штрых таго, як яны клапатліва засцерагаюць ад крытыкі... царскі рэжым, за якім беларусы, іх мова і культура падпадалі пад самую жорсткую дыскрымінацыю. У 7-м томе БелЭн даслоўна, праўда, без дзвюх-трох фраз, паўтараецца артыкул У. Ляхоўскага "З'езд настаўнікаў Мінскай губерні. 1917" (ён адбыўся праз два з паловай месяца пасля перамогі Лютаўскай рэвалюцыі ў Расіі), значна раней надрукаваны ў 3-м томе ЭГБ. Выкрасленымі аказаліся словы аб тым, што настаўніца-дэлегатка выступіла ***"супраць нацыянальнай дыскрымінацыі беларусаў"*** і выказванне аўтара пра тую частку рэзалюцыі, з'езду, дзе беларуская мова названа *"роднай галіной рускай мовы"*. Гэта, цытую выкінутую фразу, ***"было адмаўленнем самастойнасці беларускага народа"***. Сама сабой напрошваецца паралель паміж рэдагаваннем гэтага тэксту і публікацыі пра К. Каліноўскага.

... Чытаю сучасны "звод усіх ведаў пра Беларусь", а на памяць усплывае выказванне вядомага англійскага пісьменніка Джорджа Оруэла аб сітуацыі ў Германіі 30-х гадоў: "Калі Правадыр заяўляе, што "падзеі ніколі не было", значыць яе не было. Калі ён думае, што двойчы два – пяць, значыць так і ёсць". Праз год пасля скасавання 6-га артыкула Канстытуцыі СССР адзін беларускі гісторык так пракаментаваў думку пісьменніка: "Сказана амаль пра нас". Сёння, мяркую, прыслоўе тут непатрэбнае.

***Генадзь Лагуновіч,***
***Менск.***

Рэха рэферэндуму 1995 года.

# Ці застанецца 6 "А" беларускім?

Пяць гадоў таму на ўсенароднае галасаванне было вынесенае пытанне аб наданні расейскай мове статусу роўнага статусу дзяржаўнай беларускай мовы. Зроблена гэта было з парушэннем закона аб рэферэндуме, які забараняў выносіць падобнае пытанне на рэферэндум. Дэпутаты апазіцыі ў знак пратэсту супраць парушэння закону абвясцілі галадоўку ў зале паседжанняў Вярхоўнага Савету. Аднак у парламент былі ўведзены войскі дэпутатаў збілі і гвалтам выкінулі – вынеслі з памяшкання... .

У выніку рэферэндуму расійская мова стала нагэтулькі роўнаю з беларускаю, што беларуская паступова паўсюдна выцясняецца і вынішчаецца. Чарговы прыклад.

Амаль 6 гадоў правучыліся вучні цяперашняга 6 "А" класа СШ № 1 г. Белаазёрску па-беларуску (можна яшчэ дадаць і паўтары гады ў дзіцячым садку). Праўда, далёка не ўсім настаўнікам гэта падабалася, парою нават запісы ў журнале адзнакаў рабіліся па-расейску, але ж клас значыўся беларускім. І вось маці адной з вучаніцаў класа (настаўніца спеваў школы) чарговы раз вырашыла дамагчыся пераводу класа на расейскую мову навучання. Першая спроба яшчэ ў чацвёртым класе вынікаў не дала. Тады на бацькоўскім сходзе класа выступалі ў асноўным удваіх: настаўніца спеваў – за расейскую мову і яе апанентка – маці другой вучаніцы Ірыны Драчэнкі, якая даводзіла, што дзеці павінны вучыцца на мове сваёй, а не суседняй краіны. Большасць бацькоў маўчала і ў спрэчцы не ўдзельнічала, а толькі слухала, і ў рэшце падтрымала спадарыню Ірыну.

Цяпер настаўніца пайшла іншым шляхам. Яна навучыла дзяцей, што трэба, каб бацькі паставілі свае подпісы пад адпаведнаю заяваю. Пры гэтым прапаноўвала, калі нехта з бацькоў выступае за беларускую мову навучання, а другі – за расейскую, звяртацца да другога (пажадана, калі першага не будзе дома), або нават да дзядулі ці бабулі, калі нехта з іх – за расейскую мову. Такім чынам рукамі дзяцей і было сабрана пад агульнаю заяваю 16 подпісаў бацькоў, у класе – 19 вучняў. Пры гэтым многія з бацькоў не вельмі і імкнуліся разабрацца, што да чаго. Сказала дачка (ці сын), што клас пераводзяць на рускую мову, і трэба распісацца, ну яны і распісаліся. Падкрэслю, што былі сабраныя не 16 асабістых заяваў ад бацькоў, а агульная заява з 16 подпісамі, што ёсць пэўным парушэннем. Не было і бацькоўскага сходу класа.

Ірына Драчэнка зноў пачала змагацца за беларускую мову. Гурбавала школьнае і раённае кіраўніцтва. Павінны быў адбыцца бацькоўскі сход. Дырэктар школы папрасіла спадарыню Ірыну не запрашаць на яго ні вядомую паэтку з Белаазёрска Ніну Мацяш, ні прадстаўнікоў Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. На сход 13 красавіка г.г. аднак прыйшло толькі трох бацькоў. Астатнія ці не змаглі, ці ім усё роўна. Дырэктар школы і загадчык раённага аддзелу адукацыі запэўнівалі спадарыню Ірыну, што клас у такім разе застанецца беларускім.

Аднак усё перамяніў фактычна ананімны званок у раённы аддзел адукацыі, як быццам бы ад аднаго з бацькоў, што паставілі свой подпіс пад агульнаю заяваю. На наступным бацькоўскім сходзе, на які зноў сабралася толькі сямёра бацькоў, ім быў зачытаны ліст з рашэннем аб тым, што з наступнага навучальнага году клас стане рускамоўным. Намесніца загадчыка раённага аддзелу адукацыі сп. Н. Данілковіч, што падпісала ліст, спасылалася на волю 16 бацькоў, што падпісаліся пад агульнаю заяваю. На сходзе высветлілася, што бацькі, якія быццам бы званілі ў райана, у сапраўднасці гэтага не рабілі. Нехта пазваніў ад іхняга імя. На сход не прыйшла ні дырэктарка школы, не прыехаў і прадстаўнік з райана, хоць у тэлефоннай размове і абяцалі. Ірына Драчэнка працягвае змаганне, хоць і, як у дрыгве, – усе кіраўнікі ківаюць у бок адзін другога.

Пытанне беларускай мовы – гэта пытанне годнасці беларусаў. Англічане размаўляюць і вучаць сваіх дзяцей па-ангельску, немцы – па-нямецку, палякі – па-польску, літоўцы – па-літоўску, латышы – па-латышску, украінцы – па-украінску, расейцы – па-расейску, а беларусы? Ці будуць нас паважаць іншыя народы, калі мы самі гэтак ставімся да сваёй мовы, гісторыі, традыцыяў, культуры, нацыянальна-гістарычных сімвалаў. Адпаведна да нас і ставяцца. Як не будзе ў свеце такога поўнага хараства, калі знікне на зямлі нейкая кветка, расліна, птушка ці жывёла ( і іх заносяць у Чырвоную кнігу), так збяднее свет, калі знікне і беларуская мова, што нездарма магла з'явіцца менавіта на нашай зямлі ў выніку хады гісторыі па Волі Божай. Як нездарма з'явіліся і нашыя сімвалы: больш як 700-гадовая "Пагоня" ( з выяваю крыжа святой Еўфрасінні Полацкай на тарчы вершніка) і бел-чырвона-белы сцяг (белы колер з чырвонымі стужкамі – гэта колер Ісуса Хрыста, 2000 год ад нараджэння якога ідзе па Зямлі). І страціўшы мову, сваю сімволіку, мы страцім шмат чаго істотнага (частку сваёй беларускай душы, народнай – нацыянальнай ментальнасці), што суладна звязвае нас з нашаю Зямлёю, Прыродаю і са шматлікімі пакаленнямі нашых продкаў.

***Сяржук Русецкі, г. Бяроза.***

*З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ*

# Ці будзе пастаўлена кропка?

**Беларускі нацыянальны універсітэт... Што гэта: утопія, неабходнасць, прыгожая мара або нечы ўдалы палітычны крок? Пытанне, на якое нельга забыцца, спаслаўшыся на вельмі трапную думку: "У жыцці ўсё вельмі проста. Праблемы сабе стварае чалавек сам". Не рызыкуем навязваць свой адказ на яго – вы і самі ў стане зрабіць высновы. А вось пазнаёміць вас, нашых чытачоў, з яшчэ адным меркаваннем на гэты конт прымаем за абавязак. Такім чынам... Мы папрасілі пракаментаваць сітуацыю, якая складваецца зараз вакол ідэі Беларускага нацыянальнага універсітэта (БНУ), міністра адукацыі Рэспублікі Беларусь Васіля Іванавіча СТРАЖАВА.**

– Перш, чым разважаць над праблемай стварэння БНУ, - гаворыць наш суразмоўца, - трэба ўдакладніць, аб чым менавіта ідзе размова. Аб магчымасці атрымліваць вышэйшую адукацыю на беларускай мове? Гэтае жаданне маладых людзей мы ў нейкай ступені можам задаволіць і сёння. Хоць, безумоўна, клапаціцца аб развіцці нацыянальнай мовы ў галіне адукацыі трэба яшчэ шмат: ствараць беларускамоўныя плыні спачатку ў класічных універсітэтах, потым у іншых ВНУ... Да таго ж ужо праз год можна перавесці цалкам на беларускую мову навучання Беларускі універсітэт культуры, і зараз гэтае пытанне абмяркоўваецца з прадстаўнікамі яго адміністрацыі. Толькі рабіць усе гэтыя захады трэба паступова, па меры падрыхтоўкі выкладчыкаў і стварэння навукова-метадычнай базы.

Калі ж размова ідзе аб адкрыцці менавіта нацыянальнай ВНУ... Прабачце, але з такім выразам я пагадзіцца не магу. У нас ужо ёсць нацыянальная сістэма адукацыі. Таму ў дадзеным выпадку мы можам гаварыць толькі аб стварэнні ў межах гэтай сістэмы адной вышэйшай навучальнай установы. Адразу паўстае пытанне: ці патрэбна гэта?

Даць адказ цяжэй... Праўда, на заканчэнне размовы Васіль Іванавіч упэўнена паабяцаў: "Хутка створым спецыяльную камісію па гэтым пытанні, у якую ўвойдуць прадстаўнікі Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, грамадскіх аб'яднанняў, разнастайных ВНУ, навукоўцы. – І дадаў: – Ідэя развіцця беларускай мовы і культуры – справа высакародная. Шкада толькі, што ў некаторых выпадках яна мае пад сабой палітычную падаплёку".

*Наталля Шчасная.*
*"Чырвоная змена", 15.08.2000 г.*





КАБ ВЕДАЛІ І ПОМНІЛІ

# Роздум над кнігай Леаніда Маракова "Вынішчэнне"

У беларускай літаратуры крыжовы шлях. Сотні пісьменніцкіх жыццяў знішчана, многія лёсы бязлітасна перакроены і пакалечаны, цэлыя сузор'і патухлі на яе небасхіле, не паспеўшы разгарэцца на поўную моц і сілу. Кніга-даведнік Леаніда Маракова "Вынішчэнне" (Літаратурна-мастацкі фонд "Нёман", 2000) якраз і з'яўляецца яскравым сведчаннем трагедыі нашай нацыянальнай інтэлігенцыі, яе ахвярніцкай долі і драматычнага існавання на працягу амаль двухсотгадовага адрэзку гісторыі. Эпіграфам да гэтай кнігі, мусіць, маглі б стаць радкі Якуба Коласа з паэмы "Сымон-музыка":

*Эх, чаго нам ні прышлося,*
*Брацце мілыя, ужыць!*
*Колькі талентаў звялося,*
*Колькі іх і дзе ляжыць*
*Невядомых, непрызнаных,*
*Не аплаканых нікім,*
*Толькі ў полі адспяваных*
*Ветру посвістам пустым!*

"Вынішчэнне" ўключае сціслыя звесткі пра рэпрасаваных у розныя часы літаратараў і вучоных Беларусі. Гэты агульны спіс налічвае каля 600 іменаў. Далей пададзены тры варыянты спісу рэпрасаваных – па датах нараджэння, па арыштах, па датах смерці. Такім чынам, мы маем грунтоўна распрацаваны і вельмі насычаны фактаграфічны дакумент. Кожны з прыведзеных спісаў па-свойму наведамляе каштоўную інфармацыю, дае шырокі матэрыял для супастаўлення і высноў.

Спіс рэпрэсаваных па арыштах адкрывае Зарыян Даленга Хадакоўскі (сапраўднае прозвішча – Адам Чарноцкі), вучоны-славяназнаўца, які зведаў няволю ў 1809 годзе. А далей следам ідуць імёны філаматаў і філарэтаў, сяброў тайных студэнцкіх таварыстваў у Вільні. За сваё іншадумства яны, як вядома, паплаціліся зняволеннем. Царскі рэжым рэпрэсаваў Адама Сузіна, Міхала Рукевіча, Ігната Дамейку, Адама Міцкевіча, Тамаша Зана, Францішка Малеўскага, Яна Чачота і інш. Найбольш актыўныя сябры нелегальных згуртаванняў зведалі высылку, адбывалі пакаранне ў Сібіры. Арышты напаткалі ўдзельнікаў паўстанняў 1830 – 1831 і 1863 – 1864 гадоў. Асаблівы цяжар рэпрэсій, як красамоўна пераконваюць спісы, нацыянальна свядомая творчая і навуковая інтэлігенцыя зведала пры расійскім царызме (XIX – пачатак XX стагоддзяў) і ў гады бальшавіцкага этнацыду (пасля 1917 года). Пры складанні спісаў і іх аналізе Л.Маракоў высветліў вельмі істотны момант, заўважыў гістарычную заканамернасць, звязаную з лёсам беларускай інтэлігенцыі. У прадмове да кнігі ён адзначае: "Дванаццаць беларускіх літаратараў арыштоўваліся, як царскімі, так і бальшавіцкімі ўладамі (гэта значыць, што бальшавікі пачыналі не на "голым месцы", а быццам прынялі эстафету ад царскага рэжыму)..." А яшчэ рэпрэсіі праводзілі польскія, літоўскія і нямецкія ўлады, дэманструючы агрэсію сілы ў адносінах да тых, хто ўвасабляў сабой духоўны патэнцыял нашага народа. Некаторых з літаратараў арыштоўвалі па некалькі разоў: Язэпа Лёсіка, Максіма Гарэцкага, Францішка Аляхновіча, Міколу Улашчыка, Уладзіміра Дубоўку, Браніслава Тарашкевіча, Вацлава Ластоўскага, Уладзіслава Галубка, Адама Бабарэку і інш. Па колькасці арыштаў рознымі ўладамі адным з трагічных лідэраў з'яўляецца Сяргей Новік-Пяюн: чатыры разы ён трапляў у турмы, а кідалі яго ў засценкі польская, нямецкая і савецкая ўлады. Л. Маракоў вывучыў і асэнсаваў сумную статыстыку, прыводзіць многія ўражальныя лічбы і факты, якія тычацца рэпрэсіўнай дзейнасці савецкіх карных органаў, іх чорна-крывавых дасягненняў. Так, ён паведамляе імёны першых арыштаваных бальшавікамі нацыянальных інтэлігентаў: Алеся Бурбіса, Ігната Дварчаніна і некаторых іншых (снежань 1917 года), зазначае, што першым, каго новыя ўлады расстралялі, быў літаратуразнаўца, гісторык і краязнаўца Уладзімір Стукаліч (18 кастрычніка 1918 года). Самымі маладымі былі арыштаваны Васіль Хомчанка, Міхась Кавыль, Аўген Калубовіч (усе зняволеныя ў 18 гадоў). Самае маладое жыццё сталіністы загубілі ў 1937 годзе: паэт Сяргей Астрэйка быў расстраляны ў 24-гадовым узросце. Вядомы дзеяч беларускай культуры, выдавец і мовазнаўца Браніслаў Эпімах-Шыпіла трапіў пад арышт у 71 год. Многія з названых ці ўдакладненых Л. Мараковым лічбаў ды фактаў успрымаюцца як першаадкрыцці, маюць важнае гісторычна-літаратурнае значэнне. А ў прадмове да кнігі-даведніка ён зрабіў шэраг важных назіранняў і ёмістых абагульненняў.

Крывавым для творчай інтэлігенцыі Беларусі стаў дзень 29 кастрычніка 1937 года, калі сталінскія карнікі ўчынілі д'ябальскую расправу з нявіннымі ахвярамі. Розныя лічбы забітых у той дзень называлі дагэтуль. Л. Маракоў удакладняе гэтую жахлівую лічбу і пералічвае загубленых літаратараў: "... У сталіцы Беларусі Менску адбылася акцыя, аналагаў якой яшчэ не ведала гісторыя чалавецтва. На працягу ночы былі расстраляны 20 ( ! ) беларускіх і яўрэйскіх літаратараў. Ахвярамі сталінскага генацыду сталі: крытык Якаў Бранштэйн (39 гадоў), журналіст Віктар Вайноў (Войнаў) (33), паэт Анатоль Вольны (34), празаік Платон Галавач (34), паэт Алесь Дудар (32), крытык Хацкель Дунец (40), празаікі Міхась Зарэцкі (35) і Васіль Каваль (30), публіцыст Язэп Каранеўскі (56), паэт Майсей Кульбак (41), крытык Саламон Левін (25), паэт Юрка Лявонны (29), паэты Валеры Маракоў (28) і Зяма Півавараў (27), празаік Васіль Сташэўскі (42), паэт Ізі Харык (41), крытык Пятро Хатулёў (25), паэт і празаік Міхась Чарот (40), журналіст Павел Шастакоў (38), паэт Арон Юдэльсон (30)".

У спісах імёны расстраляных і закатаваных пісьменнікаў ды вучоных вылучаны тлустым шрыфтам. Таму даведнік "Вынішчэнне", апрача іншага, гэта і мартыралог ахвяраў рэпрэсій. Вельмі важна, што Л. Мараковым пайменна названы многія і многія беларускія літаратары, журналісты, дзеячы культуры і навукі, хто панёс смяротнае пакаранне, прычым незаслужана і з цяжкімі, бяздоказнымі абвінавачваннямі. Нямала іменаў вернута з цянётаў нябыту дзякуючы карпатлівым архіўным росшукам Л. Маракова.

У прадмове да кнігі надзвычай слушна і пераканальна, хоць і сцісла, выкладзены меркаванні пра пяць хваляў арыштаў беларускіх літаратараў у гады сталінска-бальшавіцкага генацыду. Першая хваля, як даводзіць Л. Маракоў, пачалася ў канцы чэрвеня 1930 года, другая моцная хваля арыштаў прыпала на люты 1933 года, трэцяя і самая "доўгая" хваля арыштаў пачалася ўвосень 1936 года і працягвалася да пачатку – сярэдзіны 1938 года, калі за паўтара года было рэпрэсавана больш за 200 чалавек, чацвёртая набрала разгон увосень 1939 года пасля ўз'яднання з Заходняй Беларуссю, і, нарэшце, пятая хваля арыштаў доўжылася з канца 1944 года да самай смерці Сталіна. Гэтыя жудасныя хвалі дзікай смяротнай стыхіі забралі ў 30-я гады амаль дзве сотні жыццяў беларускіх літаратараў і вучоных. Адбывалася не толькі масавае фізічнае вынішчэнне і людаедства, а ішлі ўціск і ўдушэнне духоўнай дзейнасці творчай інтэлігенцыі. Пік барацьбы з так званымі "нацдэмамі" і "ворагамі народа" прыйшоўся на сярэдзіну 30-х гадоў. Толькі ў ноч з 17 на 18 траўня 1934 года было расстраляна 15 чалавек.

Канвеер смерці паглынуў многіх выдатных і вельмі таленавітых пісьменнікаў, такіх, як Максім Гарэцкі, Цішка Гартны, Вацлаў Ластоўскі, Максім Зарэцкі, Уладзімір Жылка, Уладзіслаў Галубок, Лукаш Калюга, Андрэй Мрый, Уладзімір Хадыка, Леапольд Родзевіч, Юлі Таўбін, Тодар Кляшторны, Сяргей Дарожны... У суровы сталінскі час шмат хто з паэтаў і пісьменнікаў быў знявечаны фізічна і маральна, пасля не мог выбавіцца са стану дэпрэсіі, перажываў цяжкі ўнутраны боль. Спрут таталітарызму раскінуў тады шчупальцы страху, бязлітасна хапаў кожную ахвяру, а змагары за "класавую чысціню гарамадства", рознага роду даносчыкі і крытыкі-аглабельшчыкі з усіх сіл стараліся задобрыць гэтага монстра. Малады ў тую пару паэт Валеры Маракоў, які даводзіцца дзядзькам Л. Маракову, ужо ў самым канцы 20-х гадоў прадчуваў уласны трагічны зыход са сцэны жыцця:

***Й за гэты край вясной вялікай,***
***Быць можа, знімуць галаву,***
***Праколюць цела вострай пікай.***

Не стала ў жывых ні Валерыя Маракова, ні многіх іншых яго равеснікаў у літаратуры. Бальшавікі-сталіністы імкнуліся ліквідаваць беларускую творчую інтэлігенцыю, каб спыніць працэс фармавання і актыўнага развіцця нацыянальнай свядомасці, выбіць з-пад ног народа гістарычна-культурны грунт на шляху адраджэння ўласнага суверэннага дома, імя якому – Беларусь. Зробленыя Л. Мараковым высновы ў чарговы раз моцна ўзварушваюць душу, не даюць спакою розуму, які не хоча мірыцца з такімі вялікімі і цяжкімі стратамі. Л.Маракоў адзначае: "... у 30-я гады была знішчана духоўная моц, мозг нацыі, што мы і адчуваем апошнія шэсць дзесяцігоддзяў і галоўныя вынікі генацыду, магчыма, яшчэ наперадзе". Вось дзе карэняцца вытокі нашага генетычнага біясацыяльнага страху, вось дзе хаваюцца прычыны нацыянальна-духоўнага імунадэфіцыту! Аўтар кнігі-даведніка прымушае задумацца над страшнымі і катастрафічнымі ў сваёй сутнасці лічбамі: "... З 2000 рэпрэсаваных у СССР літаратараў каля 500 (чвэрць) прыходзіцца на Беларусь, колькасць насельніцтва якой складала ў час рэпрэсіяў у СССР менш за 5 працэнтаў". Асновы беларускай літаратуры і мастацтва былі падарваны надзвычай магутна, а паўнацэннае духоўна-творчае жыццё рэспублікі па сутнасці паралізавана. У выніку разам з інтэлігенцыяй выкарчоўвалася мінуўшчына і будучыня нацыі і народа, насаджалася псеўдакультура, моцна дэфармаваліся ўяўленні пра многія каштоўнасці жыцця.

Даведнік "Вынішчэнне" – гэта подступ аўтара да стварэння энцыклапедыі пра рэпрасаваных літаратараў Беларусі. Яшчэ не ўсе імёны прагучалі ў спісах Л. Маракова, пра што, дарэчы, ён сам гаворыць у прадмове да кнігі. Яму неабходна яшчэ не раз удакладніць і перапраціць многія біяграфічныя звесткі, асабліва прыведзеныя даты. Зрэшты, даведнік шмат дзе стракаціць знакамі пытальніка ў розных графах, бо дакладная інфармацыя адсутнічае і вымагае далейшых архіўных росшукаў. У гэтым плане Л.Маракову змогуць дапамагчы сваякі рэпрэсаваных, архівісты-даследчыкі і іншыя зацікаўленыя асобы. Даводзіцца толькі шкадаваць, што даведнік выйшаў невялікім накладам. Тым не менш выданне гэтай кнігі, як думаецца, стала важным крокам на шляху вяртанне гістарычнай праўды, маральнага асуджэння генацыду ў адносінах да творчай інтэлігенцыі Беларусі. Усе мы, а таксама нашы наступнікі, павінны ведаць і помніць, што духоўная сіла народа – гэта не нейкая абстракцыя ці надасабовая субстанцыя, наадварот, яна, духоўнасць, звязана з адзінкавым і непаўторным феноменам чалавечай асобы – асобы інтэлектуальнай, адоранай і ўнутрана багатай.

*Алесь Бельскі.*

*Нашыя землякі.*

# Францішак -- сябар Адама

Сёлета спаўняецца 200 гадоў з дня нараджэння Францішка Малеўскага. Пражыў ён 70 гадоў. У бібліяграфіі значыцца як публіцыст ды вучоны-юрыст. А ўвогуле ён вядомы як блізкі сябра Адама Міцкевіча. А пэўна зблізіла іх ідэя. Францішак Малеўскі, сын тагачаснага рэктара Віленскага універсітэта навучаўся ў гэтай ўстанове. У студэнцкія гады будучы юрыст вызначаўся выдатнай эрудыцыяй, цудоўна ведаў некалькі замежных моваў. Перадавыя погляды маладога чалавека вымушалі да дзейнасці. У 1817 годзе ў Віленскім універсітэце арганізоўваецца таемнае студэнцкае таварыства філаматаў і філарэтаў і Францішак Малеўскі становіцца яго ўдзельнікам, а ў неўзабаве і адным з яго кіраўнікоў.

Цэрберы Расейскай імперыі таксама не спалі. Таямніца стала вядома. Па таварыству распачалося следцтва і ў кастрычніку 1824 года на яго заканчэнні сярод іншых Адам Міцкевіч і Францішак Малеўскі разам былі высланы ў Санкт-Пецярбург. Надалей чатыры з паловаю гады яны былі разам. Рэжым іх адсылаў куды ні трапіць. Пасля Пецярбурга была Адэса, потым Масква ды зноў Пецярбург. Малеўскі быў бадай адзіны з першых, хто вызначыў паэтычны талент Міцкевіча.

У перыяд знаходжання у Пецярбургу і Маскве Францішак даволі шчыльна зблізіўся з расейскім культурным асяроддзем. Яго знаёмымі былі рускія літаратары, мастакі, кампазітары, грамадскія дзеячы: Пушкін, Жукоўскі, Крылоў, Грыбаедаў, Вяземскі, Глінка, Дэльвіч ды іншыя.

У травені 1829 года Адам Міцкевіч пакідае межы Расейскай імперыі, а Францішак Малеўскі назаўжды застаецца ў Санкт-Пецярбургу. Паплечнікі па ідэі і сябры па высылцы разлучыліся, але лёсам ім было наканавана надалей стаць сваякамі. У 1832 годзе Францішак бярэ шлюб са старэйшай дачкой знакамітай піяністкі Марыі Шыманоўскай – Геленай. Праз два гады яе малодшая сястра Цэліна едзе ў Парыж і там выходзіць замуж за Адама Міцкевіча. А пазней, праз гады, ужо сын Адама і Цэліны наведвае Пецярбург ды знаёміцца з кузінаю Марыяю. Узнікае ўзаемнае каханне і яны бяруць шлюб.

У Пецярбургу Францішак Малеўскі займаецца навуковай дзейнасцю. Яна накіравана на збор і апрацоўку юрыдычных дакументаў, заканадаўчых актаў. У свой час ён працаваў пад кіраўніцтвам М. Сапежанскага пад складаннеем 45-томнага "Поўнага збору законаў Расійскай імперыі". Тут варта адзначыць, што дзякуючы нашаму земляку не згубіліся многія каштоўныя дакументы па гісторыі Беларусі.

Францішак Малеўскі перажыў свайго сябра Адама Міцкевіча на 15 гадоў і памёр у Пецярбургу ў 1870 годзе.

*Язэп Палубятка.*

# Помнік В. Ваньковічу

Вядомы беларускі скульптар Уладзімір Слабодчыкаў завяршыў працу над помнікам Валенцію Ваньковічу -- жывапісцу, прадстаўніку рамантызму. Помнік будзе пастаўлены ў Менску, у Верхнім горадзе, ля дома, дзе жыў мастак.

**На здымку:** Уладзімір Слабодчыкаў у майстэрні, апошнія штрыхі над помнікам В. Ваньковічу.

**Фота Яўгена Казюлі, БелТА.**



# ЗАПРАШАЕМ НА ВЫСТАВУ!

Штодзённая выстава беларускамоўнай прадукцыі ў Таварыстве беларускай мовы атрымала нетрывіяльныя экспанаты – дыскеты з беларускімі кнігамі і іншай цікавай інфармацыяй.

Адна высокаякасная Verbatim 3.5 дыскета змяшчае ў сярэднім 10-20 кнігаў (5-6 МБ) ці каля 2000 старонак. Большасць са змешчаных на дыскеце кнігаў - рэдкія і недаступныя ў продажы, вельмі танная альтэрнатыва Internet ці набыццю папяровых варыянтаў, а да таго ж вельмі зручныя і прыдатныя для любога камп'ютара (Word, IEplorer). Кожны тыдзень выстава будзе папаўняцца новай зборкай.

## Змест першай зборкі:

| Імя | Прозвішча | Заўвагі | Назва | Стар. |
|---|---|---|---|---|
| Ігнат | Абдзіраловіч | Эсэй | Адвечным шляхам | 38 |
| Славамір | Адамовіч | Вершы | Каханьне пад акупацыяй | 16 |
| Аляксандар | Бельскі | Казімір Семяновіч | Вялікае мастацтва артылерыі | 44 |
| Сымон | Брага | | Доктар Скарына ў Маскве | 44 |
| Мікола | Гусоўскі | blr, rus, lat | Песня пра зубра | 87 |
| Стах | Дзедзіч | | Эпілог | 46 |
| Галіна | Дзербіна | | Права і сям'я ў Беларусі эпохі Рэнесансу | 147 |
| Мікола | Ермаловіч | | Па слядах аднаго міфа | 90 |
| Уладзімір | Караткевіч | | Ладдзя роспачы | 36 |
| Уладзімір | Караткевіч | | Паляшук | 6 |
| Леанід | Лыч | | Назвы зямлі беларускай | 125 |
| Генадзь | Сагановіч | | Невядомая вайна | 92 |
| Генадзь | Сагановіч | Канстанцін Астрожскі | Айчыну сваю баронячы | 51 |
| Станіслаў | Станкевіч | | Русіфікацыя беларускае мовы ў БССР | 71 |
| Кастусь | Тарасаў | Гістарычны раман | Пагоня на Грунвальд | 262 |
| Кастусь | Тарасаў | Аповесць | Тры жыцці княгіні Рагнеды | 130 |
| Паўла | Урбан | Да брашуры Л.С.Абэцэдарскага | У святле гістарычных фактаў | 177 |
| Мікола | Хаўстовіч | Нав.-літаратурны альманах | XIX стагоддзе | 241 |
| Сяргей | Хмара | Беларуская міталёгія | Аб багох крывіцкіх сказы | 15 |
| Язэп | Юхо | Тадэвуш Касцюшка | Нарадзіўся я ліцьвінам… | 56 |
| | | | Кроніка дэмакратычных апазіцыйі й палітыч… | 10 |
| | | | Менская вясна – 1996 | 7 |
| | | Публіцыс. артыкулы | З гісторыяй на "Вы" | 48 |

Хутка з'явяцца дыскеты з гукам (інтэграцыйная паэма "Два браты" - і інш.)
Карыстайцеся самі і распаўсюджвайце сярод сяброў!
Жыве беларуская мова!
Чакаем Вас па адрасе Румянцава, 13 па працоўных днях з 9 да 19 гадзін.

Поспех і вера ў сябе прыйшлі да маладога кераміста Кастуся Цітова летась, калі ён на конкурсе ў Івянцы заняў першае месца. Яго творчасць -- традыцыйная народная кераміка. З тае пары Кастусь Цітоў стаў сябрам Саюза майстроў народнай творчасці Беларусі, ён пастаянна ўдзельнічае ў выставах. А наперадзе ў Кастуся -- дыпломная праца ва універсітэце культуры, які ён заканчвае, і вялікае творчае жыццё.



**На здымку:** Кастусь Цітоў у майстэрні Беларускага універсітэта культуры.

**Фота Яўгена Казюлі, БелТА.**

# Давайце спяваць па-беларуску

## Вяснянка – Беларусь

**Верш Янкі Насуты** **Музыка Яўгена Петрашэвіча**




Люблю цябе, вяснянка-Беларусь,
Калі сады адзенуцца ў квецень
І зацвіце рамонкавы абрус
Найпрыгажэйшымі ўзорамі на свеце.

*Прыпеў:*

Беларусь! Вяснянка-Беларусь!
Ты промнем незалежнасці сагрэта,
Краса мая рамонкавага цвету.
Беларусь! Беларусь! Вяснянка-Беларусь!

Ты снішся мне, Вяснянка-Беларусь,
Ў палоне чар купальскімі начамі.
Тваю красу я ў сэрцы зберагу
І пранясу яе жыццёвымі шляхамі.

*Прыпеў:*

Хвала табе, Вяснянка-Беларусь! –
У сям'і славянскай, велічнай, адзінай.
Я слаўлю вольны беларускі дух,
Магутны Божа, беражы маю Радзіму!

*Прыпеў:*

# Юбілей кампазітара

90 гадоў назад у вёсцы Новы Пагост Міёрскага раёна нарадзіўся Генадзь Іванавіч Цітовіч, беларускі дырыжор і музыказнаўца-фалькляріст. Народны артыст СССР і народны артыст Беларусі, ён на аснове ўласных запісаў стварыў вялікую колькасць канцэртных апрацовак для народнага хора ("Рэчанька", "Жавароначкі, прыляціце", "Ой рана на Івана" і іншыя). Ён з'яўляецца стваральнікам і доўгі час быў кіраўніком Дзяржаўнага народнага хору Рэспублікі Беларусь, які носіць імя Г. Цітовіча.

**На здымку:** Генадзь Цітовіч з рэстаўратарам старадаўніх музычных інструментаў Уладзімірам Пузыняй. Гэта адзін з апошніх здымкаў Г. І. Цітовіча, які зроблены ў яго дома ў красавіку 1985 года незадоўга да яго смерці.



**Фота Яўгена Казюлі, БелТА.**

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by

*Рэдакцыйная калегія:*
Людміла Дзіцэвіч, Алесь Гурыновіч, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 28. 08. 2000 г.
Наклад 2700 асобнікаў. Замова № 2198
**Падпісны індэкс:** 63865.
**Кошт падпіскі:** 1 мес.- 171 руб., 3 мес.- 513 руб.
**Кошт у розніцу:** 40 руб.